

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№132 (645) 7 ліпеня 1993 г. Серада. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 501040 экз. Кошт у розніцу — 7 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Сегодня в Минске открывается учебный семинар "Подготовка специалистов в области рационального использования и защиты окружающей среды".**

Среди организаторов его — представительство ООН в Беларуси и Совет Министров республики.

❑

**Вчера ночью вновь был обстрелян артиллерией город Сухуми.**

По предварительным данным, 1 человек убит, 3 ранены. В Очамчирском районе грузинская сторона пытается, пока безуспешно, разблокировать автодорогу Сухуми—Очамчира. С обеих сторон есть потери.

❑

**Группа российских депутатов предложила созвать 10-й съезд народных депутатов 20 июля для рассмотрения вопросов о порядке и сроках принятия новой Конституции и выборов в высший орган законодательной власти страны, а также о работе парламента.**

❑

**Малый совет Читинского областного Совета народных депутатов намерен на днях утвердить положение о референдуме среди населения области для выяснения мнения о придании статуса республики Читинской области.**

❑

**9 июля начнется официальный визит президента Кыргызстана Аскара Акаева в Монголию.**

❑

**Сегодня оппозиционное армянское объединение "Национальное самоопределение" планирует провести митинг.**

На нем будут выдвинуты требования отставки президента и парламента.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Абхазия в положении. Военном

**Глава грузинского государства Эдуард Шеварднадзе издал указ о введении со вчерашнего дня военного положения на территории Абхазии.**

Как известно, 2 июля парламент Грузии предоставил Эдуарду Шеварднадзе дополнительные чрезвычайные полномочия, в соответствии с которыми глава государства имеет право на издание подобных указов. Эти указы вступают в силу еще до утверждения парламентом Республики Грузия.

Тенгиз ПАЧКОРИЯ.

### Боевики вызвали огонь

**Подразделения российских погранвойск и Комитета национальной безопасности Таджикистана вчерашней ночью обстреляли из артиллерийских орудий позиции нарушителей границы в районе заброшенного кишлака Вари в Шуробадском районе на юге Таджикистана.**

В этом районе, расположенном в труднодоступной местности примерно в 10 км от границы с Афганистаном, укрываются остатки группировки боевиков, вторгшихся на таджикскую территорию 1—2 июля. Численность нападавших составляла до 150 человек.

### В законный отпуск. После основного закона?

**Президент Борис Ельцин принял решение отложить свой отпуск до августа.**

Ранее предполагалось, что он отправится на отдых вскоре после окончания саммита большой "семерки" в Токио.

Это объясняется решением президента "довести до конца" работу над проектом Конституции. Наблюдатели не исключают также возможности того, что решение Свердловской области объявить себя Уральской республикой также могло повлиять на решение президента.

### Генерал убегать не намерен

**Лидер одной из ведущих военно-политических группировок в Сомали генерал Мохамед Фарах Айдид обвинил США в использовании ООН для реколонизации страны.**

В интервью корреспонденту радиостанции "Голос Америки" он также сообщил, что "не намерен искать убежища за границей и останется со своим народом, чтобы разделить все трудности". При этом Айдид выразил надежду, что "сомалийцам удастся противостоять любым колонизаторским действиям".

### Температура доллара растет

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 1230 | 1280 |
| Немецкая марка | 720 | 752 |
| Английский фунт | 1727 | 1814 |
| Финская марка | 202 | 212 |
| Французский франк | 202 | 212 |

### В Беларуси "зеленые" вновь начали расти.

**За минувшую неделю доллар подорожал на 60 рублей. В банке "Комплекс" вчера курс скупки с выдачей чековой книжки составлял 1520 "деревянных".**

В России же валютные курсы уже несколько недель стабильны. На Московской межбанковской валютной бирже доллар шел за 1058 рублей. А в Эстонии — за 1105.

По мнению экспертов, в нашей республике "зеленые" на этой неделе будут подниматься так же медленно, как ртуть в градуснике.

Антон ЧЕКОВ.

### Возьмет и рухнет

**Так можно перевести на обыденный язык впечатление авторитетных специалистов после их знакомства с нынешним состоянием Софийского собора в Полоцке.**

Правда, это лишь предварительное суждение, основанное на осмотре около 400 трещин, появившихся в стенах после реставрации десятилетней давности.

Некоторые "маячки" — гипсовые пломбы, установленные недавно на трещинах, лопнули. Это значит, "процесс пошел". В чем причина: в ошибке реставраторов, строительстве моста вблизи от Софии или грунтовых вод?

Для ответа на этот вопрос и выработки методов спасения собора нужно его комплексно исследовать, а значит — деньги, которые ни правительство, ни областные власти пока не дают.

Сергей ПОЛОЦКИЙ.

### Цены на визы ошеломили, как Везувий

**В Беларуси утверждены тарифы консульских служб на выдачу гражданам Латвии и Эстонии въездных виз.**

Для получения обычной въездной визы в Беларусь жителям Латвии необходимо уплатить пошлину в размере 10 долларов США, транзитной — 5, многоразовой — 50.

Жителям Эстонии такая поездка обойдется несколько дешевле. Обычная въездная виза стоит 3, транзитная — 2, многоразовая — 10 долларов.

При необходимости получить въездную визу срочно сумма пошлины удваивается.

### В вуз только белорус?

**В нынешнем году вузы Беларуси принимают документы только от граждан нашей республики или белорусов, проживающих за рубежом.**

Иностранцы же, как из дальнего, так и ближнего зарубежья, смогут поступать в наши вузы только после заключения специальных межправительственных соглашений. Пока проведены лишь предварительные переговоры с четырьмя республиками бывшего СССР — Россией, Молдовой, Казахстаном и Таджикистаном.

Борис ШАВАРСКИЙ.

### "Измеритель": пока не сдается наш гордый завод

**Неуклонно погружается на дно псевдорыночной экономики новополоцкий завод "Измеритель", работавший на оборону СССР и оставшийся теперь без ее заказов.**

Не удержали предприятие на плаву и попытки наладить производство мирной продукции совместно с поляками и китайцами. Полным ходом идет сокращение штата, большинство в котором женщины. Нынче придется уволить не менее 500 человек.

Степан МОРСКОЙ.

### Другому яму? Такую — да!

**Зачем этот товарищ так углубился в землю под деревней Кабаки на Березовщине, забыл, кажется, и он сам.**

На глубине двух метров в глаз ему брызнул солнечный зайчик. Найденный кувшин оказался полон серебряных монет.

Хозяин направился с кладом в райотдел, где монетам поставили диагноз — римские динарии 182 года нашей эры. Злые языки утверждают, что энтузиасты роют в этих местах так, что Кабаки рискуют превратиться если не в остров сокровищ, то в сельскохозяйственные Нью-Васюки.

Василий САРЫЧЕВ.

### Дышите, пока зарплату не платят!

**Почти на треть по сравнению с прошлым годом уменьшилось индустриальное загрязнение атмосферы в Витебской области.**

На каждого человека вместо 270 теперь приходится 194 килограмма вредных выбросов. И хотя этому отчасти способствовали серьезные природоохранные меры, в том числе — перевод Лукомльской ГРЭС на газовое топливо, дышать стало легче в основном (нет худа без добра) от сокращения производств. Лидерами по отравлению окружающей среды по-прежнему остаются "химический" Новополоцк и "энергетический" Чашникский район.

Сергей СЕРГЕЕВ.

### С ревизией, но очень комплексной

**По инициативе Контрольной палаты Беларуси по Могилевской области создан местный координационный совет государственных контрольных органов.**

Отныне многие проверки будут проводиться объединенно.

Николай КОМЛЕВ.

❑Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Ці будзе дождж з вялікага грому?

Павел СТАСЕВІЧ

Палітычная бура, якая гойдала беларускі парламент з боку ў бок на мінулым тыдні, адгукнулася і пасля некалькіх дзён перадышкі.

Учора ў "Розным" першым узяў слова народны дэпутат Валерый Ціхіня і рэзкім тонам адразу пачаў ушчуваць Станіслава Шушкевіча і за тое, што не робіць пэўных высноў з вынікаў галасавання аб даверы яму, і за "развал Саюза".

На такі "ўкол", на маю думку, добра адказаў Ніл Гілевіч, які падкрэсліў, што шукаць вінаватых у справах, у якіх вінаватыя ўсе, у тым ліку і парламент (зразумела, і В.Ціхіня)... — справа непрыгожая. Зараз трэба не абвінавачваць адзін аднаго, а разам шукаць выйсце з сітуацыі на падставе глыбокага аналізу і агульнай рады. А калі Вярхоўны Савет на гэта не здольны, дык у яго адзінае дастойнае выйсце — самароспуск.

Тэму прайшоўшых баталій у парламенце прадоўжылі таксама Генадзь Маісееў і Мікалай Крыжаноўскі. Першы заклікаў дэпутатаў дэмакратычнай арыентацыі быць больш арганізаванымі — так, як парламенцкая большасць пры "атацы" на С.Шушкевіча. Нагадаў Г.Маісееў і пра віну ўрада, і асабіста Вячаслава Кебіча ў цяжкім стане эканомікі рэспублікі.

Апошнюю думку, дарэчы, падтрымаў і М.Крыжаноўскі: ён заклікаў парламентарыяў не звальваць усе грахі "з хворай галавы на здаровую". А яшчэ зрабіў папрок свайму калегу, народнаму дэпутату Уладзіміру Станкевічу за пагрозы фізічнага ўздзеяння. А ў "галавы" маладзечанскай міліцыі, па меркаванню М.Крыжаноўскага, такія магчымасці ёсць...

Ад палітыкі і "міжсабойчыкаў" да эканомікі першым павярнуў народны дэпутат Міхаіл Качан. Па яго меркаванню, закон аб прыватызацыйных чэках прымаць нельга. Гэта толькі міф аб клопатах пра працоўных-уласнікаў, а "правіць баль" на рынку каштоўных папер будуць розныя махляры і замежны капітал.

Уладзімір Новік зрабіў запыт да Кантрольнай палаты наконт праверкі таго, куды ўсё ж пайшлі тэхнічныя крэдыты, узятыя ўрадам у Цэнтральным банку Расіі? Хто іх будзе аддаваць? Непакоіла дэпутата і пытанне: а ці была карысць для рэспублікі на нядаўніх беларуска-расійскіх урадавых перамовах?..

Леанід Дзейка паўтарыў свой ранейшы запыт да старшыні КДБ рэспублікі Э.Шыркоўскага наконт звестак аб карупцыі і кантрабандзе, якімі, паводле чутак, займаюцца і некаторыя члены парламента. Калі гэта так, то чаму не ўзбуджаюцца крымінальныя справы? "Беспакаранасць яшчэ ніколі да дабра не прыводзіла", — падкрэсліў Л.Дзейка.

Аб неабходнасці ўдасканалення пенсіённага заканадаўства турбаваўся Алег Трусаў. На яго думку, існуючы парадак назначэння і пераразліку пенсій недастаткова ўлічвае тэмпы росту інфляцыі, не забяспечвае роўнай пенсіі за роўную працу, штучна зніжае памер пенсіі і такім чынам ушчамляе сацыяльныя правы грамадзян.

Каб пазбавіцца гэтай несправядлівасці, трэба замест заработнай платы ў перыяд назначэння пенсіі выкарыстоўваць для разлікаў велічыню сярэдняй заработнай платы за ўстаноўлены перыяд, які прымяняецца пры вылічэнні пенсіі.

Трэба таксама ўлічваць, што ў розны час розныя галіны народнай гаспадаркі знаходзіліся ў няроўным становішчы па аплаце працы, асабліва гэта датычыцца медыцыны і народнай адукацыі.

Таму грамадзяніну трэба даць магчымасць выбару: альбо скарыстоўваць для разліку і пераразліку ягонай пенсіі сярэднямесячную рэспубліканскую заработную плату, альбо сярэднямесячную заработную плату па галіне вытворчасці.

Перад пачаткам работы па асноўных пытаннях кароткае слова ўзяў Станіслаў Шушкевіч. Ён падтрымаў дэпутата Міхаіла Качана наконт сумненняў у законе аб прыватызацыйных чэках: капітал сапраўды "плыве" ў тыя рукі, якія ім умеюць карыстацца. Але ж, з другога боку, стартавыя магчымасці ў прыватызацыі трэба старацца даць усім роўныя, а не толькі кіраўнікам, як зараз.

Але абмеркавання па гэтаму пытанню на дзённым пасяджэнні не адбылося: па просьбе старшыні парламенцкай камісіі Леаніда Козіка быў дадзены час для апошняй "шліфоўкі" асобных палажэнняў законапраекта.

На трыбуну сесіі быў запрошаны старшыня Вярхоўнага суда рэспублікі Уладзімір Каравай — разглядалася пытанне аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дзеючыя заканадаўчыя акты ў адпаведнасці з прапановамі органаў і асоб, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы.

Гаворка, калі коратка, ішла пра тое, ці трэба адмяняць смяротную кару за маёмасныя злачынствы, у тым ліку і ў асабліва вялікіх памерах.

Аргументы У.Каравая: хопіць 15 гадоў зняволення і канфіскацыі маёмасці злачынцы. Тым больш што смяротная кара ў практыцы ўжо многа гадоў у такіх выпадках не прымяняецца, ды і амністыя махлярам-зладзеям не "свеціць".

Але дыскусія ўсё ж па гэтаму пытанню адбылася — многія парламентарыі прапаноўвалі пажыццёвае зняволенне. У рэшце рэшт закон быў прыняты, у Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы будуць унесены адпаведныя змены.

А прапанова наконт штрафаў, якія могуць даваць суддзі за парушэнне парадку ў ходзе судовага працэсу — ад адной да трох мінімальных заработных плат, — не прайшла. Яе, па сутнасці, "зрэзаў" сваім слушным выступленнем Яўген Новікаў. Людзі з грашыма зараз адкупляюцца яшчэ да суда, а "біць" рублём будуць "простых" людзей. Да таго ж такія меры ўздзеяння даюць народным суддзям магчымасць "круціць" судовы працэс у патрэбны бок. Такіх выпадкаў і зараз шмат, а што ж будзе пры такіх штрафах?..

Дэпутаты з такімі довадамі згадзіліся. Хутка "прайшло" і пытанне аб дарожных фондах рэспублікі. З іншых змяненняў і дапаўненняў адзначу і больш жорсткія меры за такія дзеянні, як дробнае хуліганства, п'янства, самагонаварэнне.

Паколькі "гарачыя" тэмы — аб рэферэндуме, імянных прыватызацыйных чэках і г.д. — вырашана перанесці на вячэрняе пасяджэнне, то парламентарыі пачалі разгляд справаздачы Нацыянальнага банка рэспублікі аб рэалізацыі грашова-крэдытнай палітыкі ў мінулым годзе і аб асноўных напрамках у гэтай важнай справе сёлета.

Там, дзе грошы, — заўсёды горача. Тым больш у пераходны перыяд, калі трэба рабіць структурную перабудову эканомікі рэспублікі і вырашаць: жыць у рублёвай "зоне" ці пераходзіць на сваю валюту? І як шукаць кампрамісы з Расіяй, з якой зараз вялікі гандлёвы дысбаланс?

Цяжкія пытанні. А пэўны выбар, між іншым, трэба рабіць ужо зараз. Адзінства наконт яго ў парламенце не было. Дыскусія была працяглай і няпростай. Прыняцце канкрэтнага рашэння, як паказала галасаванне, зноў адкладзена — над праектам пастановы будзе працаваць пагадняльная камісія.

*Падзея*

## Беларусы прыехалі дадому

Менавіта так сказала дэлегатка Першага з'езда беларусаў свету, журналістка з рэспублікі Саха Ніна Пінчук. Выпускніца Белдзяржуніверсітэта, яна ўзначальвае галоўную рэдакцыю нядаўна створанага інфармацыйнага агенцтва Якуціі (Саха) і, працуючы на карысць сваёй новай радзімы, працягвае заставацца лаяльнай да беларускай дзяржаўнасці і культуры гэтак жа, як сотні нашых суайчыннікаў ва ўсіх кутках свету.

Ужо некалькі дзён цягнікі і самалёты прывозяць у Мінск дэлегатаў Першага з'езда беларусаў свету. Як паведамілі ў прэс-цэнтры форуму, зарэгістравалася больш як 700 чалавек. У мінулыя выхадныя нашы суайчыннікі сталі ўдзельнікамі святкавання 770-годдзя старажытнага Нясвіжа. У панядзелак частка дэлегатаў і гасцей адправілася ў Навагрудак на другое свята — 740-годдзе з дня каранацыі літоўскага князя Міндоўга і станаўлення Навагрудка як першай сталіцы Вялікага княства Літоўскага. А 6 ліпеня жадаючыя змаглі прыняць удзел у 3-й Усебеларускай палітычнай канферэнцыі, якая праходзіць у Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

Вядома ж, з'езд — не толькі вялікая культурная праграма, хоць менавіта яна дапаможа яго ўдзельнікам скласці яскравае ўяўленне аб сённяшнім жыцці сваёй гістарычнай радзімы. Сур'ёзная ж работа — пленарнае пасяджэнне, "круглыя сталы" па самых вострых пытаннях эканомікі, палітыкі, адраджэння нацыі — пачнецца з 8 ліпеня.

У ноч з 6 на 7 ліпеня былі запалены на Беларусі купальскія вогнішчы. Ля аднаго з іх, на "Высокім Беразе" на радзіме Якуба Коласа, сабраліся дэлегаты Першага з'езда беларусаў свету. Як і мы, яны не перастаюць верыць у цудоўную папараць-кветку, што распускаецца ў гэтую ноч, наканоўваючы шчасце і працвітанне. Мо, сабраўшыся нарэшце ўсе разам, мы сапраўды знойдзем гэтую кветачку!?

Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, Белінфарм.

# У адзінстве і любові Хрыстовай наша выратаванне

## Пасланне Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага ФІЛАРЭТА, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, члена Свяшчэннага Сінода ўдзельнікам З'езда беларусаў свету

**Шаноўныя спадары, браты і сёстры!**

Праваслаўная Царква Беларусі вітае вас на роднай зямлі і жадае плённай працы на карысць духоўнага і культурнага адраджэння беларускага народа, на карысць міру і згоды паміж людзьмі.

Гісторыя раскідала беларусаў па свеце, падзяліла дзяржаўнымі і канфесійнымі межамі, але жыве асноўнае, што яднае ўсіх, — беларушчына, родная зямля, народ, мова, культура, агульныя хрысціянскія прынцыпы маралі, узгадаваны Царквою беларускі менталітэт, дарагія ўсім народныя традыцыі — усё тое, што мы завём душой народа.

Працэс нацыянальнага яднання павольна, але ідзе. Так, на вялікіх урачыстасцях 1992 года з нагоды 1000-годдзя Праваслаўнай Царквы на Беларусі і зусім нядаўна падчас свята Усіх Беларускіх святых, калі адзначалася 200-годдзе Мінскай епархіі, да нас прыязджалі госці з розных кантынентаў і краін, і сярод іх шмат беларусаў. У апошнія гады, калі ўзнавіліся ўсе 10 старажытных беларускіх праваслаўных епархій, на епіскапскія кафедры і на прыходы, выкладчыкамі аднаўленай Мінскай духоўнай семінарыі вярнуліся на радзіму многія беларусы з былога Саюза. Зрабіць гэта было нялёгка, бо з благаславення Царквы і Патрыярха яны служылі ў іншых месцах, але з дапамогай Яго Свяцейшаства Патрыярха Алексія ўсё ўладкавалася. Зараз намеснікам Жыровіцкага манастыра з'яўляецца выхаванец Маскоўскай духоўнай акадэміі архімандрыт Гурый са Свята-Троіцкай Сергіевай Лаўры, з акадэміі вярнуўся на радзіму протаіерэй Сергій Гардун, які выкладае ў семінарыі Біблейскую гісторыю на цудоўнай беларускай мове.

З дзесяці нашых епіскапаў восем — беларусы, большасць якіх вярнуліся з Расіі. У навукова-багаслоўскіх справах Беларуская Царква заўсёды мае падтрымку і дапамогу вядомага сучаснага багаслова беларуса протапрэсвітэра Віталія Баравога, прафесара Маскоўскай духоўнай акадэміі. У гэтым імкненні беларусаў працаваць на радзіме бачыцца мне добры плён суверэннасці Беларусі, утварэння самастойнага Беларускага Экзархата.

Мы з радасцю сведчым, што паспяхова адраджаюцца беларускія манастыры — у Полацку, Гародні, Магілёве, Оршы. У аднаўленай Тураўскай епархіі XI стагоддзя сёлета быў урачыста адкрыты і асвечаны помнік свяціцелю Кірылу, епіскапу Тураўскаму.

Беларуская Біблейская камісія ажыццявіла пераклад Святога Евангелля паводле Матфея, які быў выдадзены ў 1991 годзе. Праца над беларускім перакладам Новага Запавету працягваецца, і хацелася б ведаць адносіны беларускай дыяспары да якасці гэтага перакладу. Думаецца, што прыбыўшым з-за мяжы будзе цікава пазнаёміцца з нядаўна выдадзенымі па благаславенні Царквы кнігамі "Шлях немаркотны. Нарысы гісторыі святасці Белай Русі" Аляксея Мельнікава і "Жывапіс Полацкай зямлі XI-XII стагоддзяў" Адольфа Сяліцкага.

Мы атрымліваем замежныя рэлігійна-грамадскія часопісы з дыяспары, але хацелася б, каб Мінская духоўная семінарыя больш мела замежных беларускіх выданняў, незалежна ад іх канфесійнай прыналежнасці. Калі мы будзем лепш ведаць адзін аднаго, ведаць жыццё нашых Цэркваў, будзе ўсталёўвацца мір і згода, будзе будавацца наш агульны дом — Беларусь. Пошук ворагаў, гістарычных правінаў — не хрысціянскі, заганны шлях. Зараз, у цяжкія для Беларусі чарнобыльскія часы больш за ўсё патрэбна адзінства народа, усіх беларусаў — на радзіме і ў дыяспары. І ўсе мы павінны не забывацца аб хрысціянскім аптымізме, аб словах, што сказаў пасля Уваскрасення Гасподзь наш Ісус Хрыстос: *"Радуйцеся!"*, — бо перамог смерць, уладу граху і д'ябла.

Беларусь атрымала зямную свабоду веравызнання, царкоўнага жыцця, хрысціянскага выхавання дзяцей і моладзі, свабоду аднаўляць і будаваць храмы і манастыры. Дык будзем жа ўдзячнымі Богу і будзем памятаць словы Збавіцеля: *"Няхай будуць усе адно: як Ты, Айцец, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно"* (Ін. 17, 21).

У адзінстве і любові Хрыстовай нашае выратаванне. Жадаю З'езду беларусаў свету паслужыць справе нацыянальнага яднання і духоўнага адраджэння Беларусі!

Божае благаславенне вам! Няхай пакрыў Найсвяцейшай Багародзіцы Жыровіцкай і Мінскай і малітва Беларускіх святых заўсёды будуць з вамі.

**ФІЛАРЭТ,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

Мінск,
чэрвень 1993 г.

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# ЗАМЕЖЖА

* ІТАР-ТАСС * НАРОДНАЯ ГАЗЕТА *

*Пульс дня*

### Боснія і Герцагавіна: сітуацыя адчайная

Сітуацыя ў Босніі і Герцагавіне — адчайная. З улікам бамбардзіровак Сараева, якія ўзмацняюцца, і руху сербскіх і харвацкіх узброеных сіл баснійскаму мусульманскаму кіраўніцтву засталося толькі некалькі дзён для прыняцця рашэння аб перагаворах з гэтымі двума бакамі. Такую думку выказаў у інтэрв'ю агенцтву Рэйтар сустаршыня каардынацыйнага камітэта канферэнцыі па ўрэгуляванню становішча ў былой Югаславіі лорд Оуэн. Вылучаны сербамі і харватамі план аб стварэнні канфедэрацыі ў Босніі і Герцагавіне, з яго пункту гледжання, нягледзячы на тое, што ён не з'яўляецца ідэальным, — адзіны, які маецца ў цяперашні час у распараджэнні. Пасрэднік ЕС фактычна прызнаў пры гэтым, што план Вэнса-Оуэна, які прадугледжваў падзел рэспублікі на 10 этнічных правінцый і адобраны ААН, недзеяздольны.

### Учора — Багдад. Сёння — Кабул

Больш як трыццаць рэактыўных снарадаў абрушыліся на жылыя кварталы Кабула. Забіты пяцёра мірных жыхароў, восем чалавек атрымалі раненні. Як паведаміла ўрадавае радыё Кабула, абстрэл вёўся з паўднёвых наваколляў горада, якія кантралююць баевікі Ісламскай партыі Афганістана.

### Сярэдні Захад "паплыў"

У выніку ліўневых дажджоў, якія працягваюцца ў амерыканскіх штатах сярэдняга Захаду, узровень вады ў рацэ Місісіпі дасягнуў рэкордных адзнак. Выкліканая гэтым паводка стала нацыянальнай катастрофай. Вада заліла вуліцы размешчаных уздоўж ракі гарадоў і пасёлкаў. Насельніцтва аказалася адрэзаным ад знешняга свету, большасць людзей не можа пакінуць сваіх дамоў, многія былі эвакуіраваны. Затоплены гіганцкія плошчы сельскагаспадарчых угоддзяў і прамысловыя аб'екты.

### Звергнуць урад не ўдалося

Нацыянальны сход Францыі адхіліў рэзалюцыю аб недаверы ўраду, унесеную левай апазіцыяй у сувязі з абмеркаваннем законапраекта аб прыватызацыі.

### Тэрарысты не дрэмлюць

Магутны выбух прагрымеў у паўночнаірландскім горадзе Ньютаунардс. Яго ажыццявіла Ірландская рэспубліканская армія (ІРА), якая праводзіць тэрарыстычнымі метадамі барацьбу за вывад з Ольстэра брытанскіх войск і яго аб'яднанне з Ірландыяй. Каля 700 кілаграмаў узрыўчаткі знаходзілася ў аўтафургоне, які быў прыпаркаваны ў цэнтральнай частцы горада. На гэты раз абышлося без чалавечых ахвяр.

*Новости СНГ*

### Новая республика заявляет о своих правах

По мнению главы администрации Уральской республики, провозглашенной на территории Свердловской области, Эдуарда Росселя, доля оставляемых в распоряжении новой республики доходов должна быть не ниже, чем у Башкортостана и Татарстана.

Решение об изменении статуса Свердловской области принято на сессии облсовета 1 июля.

В интервью журналистам в кулуарах сессии Э.Россель отметил, что даже при оставлении за республикой 50 процентов налоговых поступлений "она может полностью себя обеспечить".

Между тем сессия облсовета решила обратиться к съезду народных депутатов РФ с ходатайством об утверждении решения об изменении статуса Свердловской области и о внесении соответствующих изменений в Конституцию РФ.

### Граница на замке. В том числе для "Гринписа"

Российские пограничники задержали в Финском заливе 9 членов международной организации "Гринпис". Судно "Гринпис" "Моби Дик" зашло в залив в районе водозаборной станции в Сосновом Бору, где находится Ленинградская атомная электростанция. Спустив три надувные лодки с моторами, они попытались взять пробу воды и были задержаны погранотрядом заставы "Сосновый Бор". У активистов международной экологической организации изъята видеоаппаратура.

### Коррупция — проблема интернациональная

Президент Молдовы Мирча Снегур подписал указ о дополнительных мерах по координации борьбы с преступностью, коррупцией и нарушениями законности. Документ предусматривает утверждение при президенте состава координационного совета по борьбе с преступностью и коррупцией.

Согласно указу, в республике образуется также временная специальная комиссия из представителей МВД, национальной безопасности, юстиции, министерства финансов, экономики, департамента по приватизации и Национального банка. Ей поручено организовать проверку исполнения должностными лицами законодательства по борьбе с коррупцией и незаконной приватизацией.

*Спецслужбы*

## Работает ли военная разведка России в странах СНГ?

По неофициальной информации, полученной нашим корреспондентом в Главном разведывательном управлении (ГРУ) Генштаба МО РФ, по крайней мере с конца прошлого года военная разведка России стала создавать резидентуры и внедрять своих сотрудников под "крыши" российских посольств и представительств в некоторых странах СНГ.

Новые назначения производятся в первую очередь в бывшие республики СССР, охваченные вооруженными конфликтами, и в страны, граничащие с ними — Закавказье и Среднюю Азию.

Оценивая сообщение о появлении новых адресов загранкомандировок сотрудников ГРУ, можно сделать вывод, что начало тайной работы военной разведки в странах, лишь формально являющихся союзниками, лишний раз подтверждает тезис из проекта военной доктрины России о смещении акцента в сторону локальных конфликтов.

По нашим данным, еще в конце января 1993 года президент Ельцин подписал указ о сокращении на 50 процентов штата Главного разведуправления. Не исключено, что решение президента основывалось на "особом мнении" парламентариев. В соответствии с поручением Президиума Верховного Совета России в конце 1992-го и начале 1993 года в штаб-квартире ГРУ в Москве работала парламентская комиссия по проверке деятельности спецслужб (в течение прошлого года эта комиссия уже успела проверить Министерство безопасности РФ и Службу внешней разведки). 9 февраля, на расширенном заседании двух парламентских комитетов, обобщенные выводы комиссии были доведены до сведения приглашенных на заседание руководителей российских спецслужб.

О чем конкретно шла речь на закрытом для прессы заседании и какие задачи были поставлены перед разведчиками, официально не сообщалось. Однако один из участников той встречи неофициально подтвердил агентству "6-й этаж", что сокращение спецслужб неизбежно, и в первую очередь коснется сотрудников зарубежных резидентур, в том числе ГРУ.

В самом ГРУ указ президента и выводы парламентской комиссии стали полной неожиданностью. "Доводы о невозможности финансировать разведывательные работы просто несостоятельны, — сказал нашему корреспонденту один из сотрудников ГРУ, — наша организация при желании легко могла бы перейти на самофинансирование — за счет своих зарубежных фирм и научно-технической разведки" (промышленного шпионажа).

ГРУ до сих пор считается одной из крупнейших и мощных спецслужб мира, хотя после августа 1991 года эта организация и пережила лихорадку кадровых перемен. За неполный год, с октября 1991-го по сентябрь 1992-го, только кресло шефа военной разведки занимали три генерала — Владлен Михайлов, командовавший ГРУ с 1986 года, Евгений Тимохин и нынешний начальник управления Федор Ладыгин.

Тем не менее секретные службы России, переживая кадровые и идеологические перемены, все же не меняют своих целей — быть "глазами" и "ушами" государства, чтобы вовремя предупреждать и по возможности предотвращать угрозу извне.

С изменением геополитической ситуации в мире российская армия, в отличие от советских вооруженных сил, не считает своим врагом ни одно зарубежное государство. Однако с исчезновением противостояния странам—участницам блока НАТО возрастает угроза втягивания России в многочисленные вооруженные конфликты, которыми охвачены граничащие с ней страны бывшего СССР.

Поэтому вполне логичным представляется "переключение" внимания военных разведчиков с традиционных сфер интересов в "дальнем зарубежье" на молодые государства, возникшие на руинах СССР.

*Агентство "6-й этаж".*

**ОТ РЕДАКЦИИ. Публикуя этот материал, мы отдаем себе отчет, какую затронули деликатную тему. Работа разведок, особенно военных — всегда представляется тайной "за семью печатями". Но сегодня надо говорить и об этом. Наших читателей, судя по почте, интересует роль и место КГБ в жизни молодого государства, информация о практической деятельности военных разведчиков и контрразведчиков. Редакция изучает возможность получения подобной информации и публикации ее на страницах газеты.**

*Беларусь рыхтуецца да фестывалю "СЛАВЯНСКІ БАЗАР-93"*

## ...І запяе ў Віцебску "Залаты певень"

**З 21 па 30 ліпеня тры славянскія дзяржавы — Беларусь, Расія і Украіна — праводзяць свята мастацтва. Трэба адзначыць, што фестываль арганізуюць пераважна прыватныя структуры, а дзяржавы падтрымліваюць яго ў творчым плане, матэрыяльным.**

**Заснавальнікі гэтага фестывалю: з расійскага боку — фірма "Ірыда", з украінскага — кіеўская "Рок-акадэмія", ад Беларусі — Беларускі саюз дапамогі ахвярам чарнобыльскай аварыі "Зніч" (прэзідэнтам якога з'яўляецца Наталля Пятроўна Машэрава) і віцебская дырэкцыя фестываляў, якую ўзначальвае Радыён Міхайлавіч Бас.**

**Галоўны рэжысёр фестывалю "Славянскі базар" Аляксандр Дзмітрыевіч ВАВІЛАЎ паведаміў нашаму карэспандэнту:**

— Тры дні фестывалю цалкам аддадзены музычным праграмам дзяржаў — арганізатараў свята. 23 ліпеня — нацыянальны Дзень Расіі. Музычнае прадстаўленне расіян называецца так: "...И зажигаем свечи". Гэта будзе канцэрт-песня. Украінскія сябры назвалі сваё выступленне (25 ліпеня) "Звездная ночь Украины", і пакуль што ўкраінскія калегі свае творчыя задумкі трымаюць у сакрэце. Магчыма, будуць сюрпрызы, і гэта прыемна.

На фестывалі "Славянскі базар" беларускае музычнае мастацтва будзе прадстаўлена, як вядома, 27 ліпеня — у Дзень незалежнасці нашай рэспублікі. Па нашай задумцы ў гэты дзень адбудзецца своеасаблівы эстрадны спектакль, у якога ёсць свая ідэя, свая жанравая стылістыка, і натуральна, што падбор выканаўцаў мы вялі ўжо адпаведна таму, хто найбольш поўна зможа раскрыць тую ідэю, якую мы паставілі перад сабой. Наш дзень і спектакль, які будзе адбывацца ў гэты дзень, мае такую назву: "Як толькі ноч ліпнёвая..." Гэта радкі, узятыя з верша народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. Расшыфроўка такая: канцэрт-фантазія з нагоды кірмашу на змярканні. Прыцемкамі і будзе пачынацца трансляцыя канцэрта-фантазіі.

Значнай падзеяй фестывалю павінен стаць конкурс маладых выканаўцаў, які ў гэтым годзе будзе мець свой твар, сваё імя дзякуючы ідэі Уладзіміра Георгіевіча Мулявіна. Ён прапанаваў яго назваць вельмі прыгожа: "Залаты певень".

**Сваімі думкамі падзяліўся Уладзімір Георгіевіч МУЛЯВІН, кіраўнік сусветна вядомых "Песняроў", мастацкі кіраўнік беларускага дня на "Славянскім базары":**

— У нас ужо ёсць вопыт правядзення фестываляў, таму што такога тыпу фестываль ужо два разы праходзіў у Польшчы. У мінулым годзе адбыўся першы Славянскі, зараз — другі Славянскі базар. Шмат было добрага ў гэтых святах, але шмат было і памылак. У гэтым годзе мы ставілі сваёй мэтай пазбегнуць ранейшых недахопаў і зрабіць фестываль карысным для развіцця музычнай культуры кожнай краіны і ў цэлым усяго славянскага свету.

Для ўсіх нас самы адказны дзень на свяце — гэта Дзень Беларусі, тым больш што ён будзе адзначацца ў дзень нацыянальнага свята — Дзень незалежнасці. Мы склалі асобную беларускую праграму... Зараз адабрана для ўдзелу ў спаборніцтве каля 40 чалавек. У нас, напэўна, будзе самая маладая каманда, калі можна так сказаць, маладых выканаўцаў. Самаму юнаму — 16 гадоў, самаму старэйшаму ўдзельніку гэтага конкурсу — 28. Як паказала падрыхтоўка конкурсу "Залаты певень", самая вялікая праблема на сённяшні дзень — выбар беларускага рэпертуару. Спадзяёмся, што фестываль "Славянскі базар" будзе стымулам у творчасці моладзі і дапаможа ёй павярнуцца тварам да свайго нацыянальнага мастацтва.

*Белорусские дипломаты: анфас и в профиль*

# За бедного торгпреда замолвите слово...

## Интервью с "камнем за пазухой"

Игорь ОСИНСКИЙ,
собственный корреспондент "Народной газеты" в ФРГ

**Сознаюсь: на встречу с советником по торгово-экономическим вопросам посольства Республики Беларусь в ФРГ (в дальнейшем — торгпред) Василием Леоновым я шел с "камнем за пазухой". Пожалуй, впервые за четверть века журналистской жизни. Прекрасно понимал, что это противоречит не только презумпции невиновности, но и профессиональной этике. И все же... Слишком уж негативную по нынешним временам "ауру" излучает мой собеседник!**

Тем, кто мало знаком с Василием Леоновым, напомню основные вехи его биографии. Родился в 1938 году. По профессии — инженер-механик. Работал колхозником, шахтером, директором совхоза "Милославичи", в областном управлении сельского хозяйства, в райисполкоме, облисполкоме. С 1975 года — на партийной работе: первый секретарь Горецкого РК КПБ, секретарь Могилевского обкома КПБ по сельскому хозяйству. С 1983 года — первый секретарь, "хозяин области".

О преступлениях КПСС сказано уже так много, что я вряд ли смог бы добавить что-либо существенное. В общественном сознании именно партийный "генералитет", куда входили и руководители областных организаций, прежде всего повинен в том, что страна наша, располагая уникальными сырьевыми ресурсами, не сумела разумно распорядиться ими, и вместо обещанного коммунизма люди оказались в нищете. По уровню жизни мы уступаем сегодня даже большинству развивающихся государств.

Помимо сопричастности к этой, общей, вине за именем Василия Леонова тянется и густой шлейф слухов о его личной ответственности перед обществом и законом. (Некоторые из них изложила газета "Республика".) Говорят, что якобы будучи повязанными круговой порукой, спасая Василия Леонова от правосудия, окопавшиеся в парламенте и правительстве дружки-партократы и послали его... подальше, создав "теплое", валютное местечко.

Так это или нет, чиста ли совесть бывшего лидера коммунистов Могилевщины перед государством и людьми — решать не газете. Журналисты не выносят приговоров. Для этого есть судебные органы. Тем более что и сам Василий Леонов настаивает на проведении беспристрастного расследования по выдвинутым против него обвинениям. И потому воздержимся от соблазна вслед за другими кричать "ату его, ату!" В настоящий момент важнее знать другое — сумел ли бывший партаппаратчик стать истинным дипломатом-демократом, достойно ли представляет за рубежом интересы нашего государства?

### С государственным мандатом, но на птичьих правах

...Унтер ден Линден, 55. Здесь, в полукилометре от рейхстага, разместился берлинский филиал торгового представительства России в ФРГ. Комнату 232 в нем занимает торгпред Беларуси. Впрочем, об этом можно лишь догадываться — ни на воротах, ни на двери кабинета соответствующей вывески нет. Скорее всего, не позаботились о ней в целях экономии. Но это вполне соответствует "птичьим правам", на которых находится здесь Василий Леонов. Как известно, в соответствии с российско-белорусским соглашением наша республика отказалась от своей доли зарубежной собственности СССР при условии, что Россия как правопреемница бывшего Союза возьмет на себя выплату внешних долгов. Выгодно ли это для нас — факт далеко не бесспорный. Долги-то скорее всего спишут: России просто-напросто нечем за них расплачиваться. Зато у молодой белорусской дипломатии за рубежом — ни кола, ни двора! В 1998 году, когда начнется переезд в Берлин парламента и правительства, из российских помещений нас почти наверняка попросят. Придется снимать офисы и жилье у немцев. Арендная плата в центре столицы уже сегодня составляет 60—70 марок за квадратный метр и к тому времени, конечно же, значительно возрастет. Чем будем платить? Похоже, что власти об этом не подумали, уповая на то, что все заботы лягут на плечи их преемников.

Принял меня Василий Леонов, как показалось, настороженно. И все же мало-помалу установился хотя бы минимальный уровень доверия, без которого откровенный разговор просто невозможен.

— Насколько мне известно, вы никогда ранее не занимались торговлей, не знали немецкого языка и Германии. При этих обстоятельствах ваш приезд сюда действительно выглядит странным. Что, не было иного выхода?

— Был. И не один. В том числе и приглашения на работу за рубеж, в другие страны. Идея поехать в Берлин принадлежит мне самому. Я всегда считал, что Германия является нашим важнейшим партнером, что учиться капитализму нужно именно здесь. А в том, что нам не миновать смены общественного строя, не сомневался, хотите — верьте, хотите — нет, еще задолго до начала перестройки. За что и подвергался не раз критике со стороны правоверных руководителей-коммунистов... Мою просьбу поддержал Катушев — в то время министр внешних сношений СССР. После четырехмесячной подготовки в Москве я и приехал 13 августа 1991 года в Берлин заместителем торгпреда СССР. С оговоркой, что главное внимание в своей деятельности буду уделять внешнеторговым связям Белоруссии.

...А через неделю произошел путч. Не берусь судить, какую позицию в той критической ситуации занимал Василий Леонов. Зато наверняка знаю, что большинство советских дипломатов пребывали в глубочайшем шоке. Запершись в служебных помещениях, они не впускали никого из посторонних к себе и сами не рисковали выходить на улицу, чтобы, упаси Боже, не оказаться лицом к лицу с демонстрантами, собиравшими возле посольства подписи в защиту Горбачева. Лишь журналисты осмеливались в те дни давать интервью немецкому радио и телевидению.



После известных событий в Беловежской пуще над зданиями советских посольств был поднят российский государственный флаг. Москва ясно дала понять, что спасение утопающих — дело рук самих утопающих. Так встал вопрос о формировании белорусского дипломатического корпуса. Василию Леонову суждено быть одним из первопроходцев. И тем самым (заслуженно или незаслуженно — покажет лишь время) он вошел в анналы нашей новейшей истории. С этим тоже нельзя не считаться...

— Расскажите, пожалуйста, как живут белорусские дипломаты. У многих читателей это слово вызывает ассоциации с роскошной, красивой жизнью. Шикарный особняк с бассейном, сияющий лаком "Мерседес", прислуга, приемы, о которых не могла мечтать даже Наташа Ростова, узаконенные кутежи...

— Из перечисленного вами набора у меня есть только "Мерседес". Подержанный, 5-летней давности — купил за 20 тысяч марок. Будь моя воля, охотнее водил бы "Жигули". Но приходится встречать и провожать правительственные делегации из других стран. Честно говоря, наш автомобиль не вполне соответствует этикету.

"Офис" можете оценить сами. 20 квадратных метров. Обходится в 300 марок в месяц.

Вместе с женой и внучкой снимаю обычную 3-комнатную квартиру в доме торгпредства. Это — 800 марок в месяц. Естественно, ни о водителе, ни о прислуге не может быть и речи. Что касается личных роскошеств... Моя зарплата — 2 330 марок. Для сравнения: рядовой продавец в любом магазине получает примерно в 2 раза больше. Правда, немножко подрабатывает жена — у нее 6 часов математики в посольской школе.

Зная, как сложно достается республике валюта, экономить стараемся на всем. Представительские расходы предусматривают лишь кофе и минералку. Живем без медицинской страховки. Для немцев, не говоря уже о дипломатах, это нонсенс. Случись что-нибудь, не дай Бог, без страхового полиса в больницу ведь не положат. Единственная надежда на российский воинский госпиталь, который остается в Берлине до окончания вывода Западной группы войск.

...В прошлом году из государственной казны на содержание белорусского торгового представительства истрачено в общей сложности 48 тысяч марок.

### Ключи от государства, где деньги лежат

— Оправдывает ли белорусское торгпредство в Берлине затраты на свое содержание? А говоря совсем откровенно — не прожигаете ли вы жалкие валютные средства нищей страны?

— Отвечу столь же откровенно — не знаю! Определить эффективность работы дипломатов довольно сложно — для этого пришлось бы проанализировать множество политических и экономических факторов. Причем с учетом перспектив. А мы не располагаем сегодня даже простейшей информацией — объемом экспорта и импорта. Подсчитывать его приходится кустарным образом, по материалам таможенного контроля.

— И о чем они свидетельствуют?

— К глубочайшему сожалению, о неуклонной сдаче позиций, которыми Беларусь располагала, входя в СССР. Вот как изменялся экспорт из нашей республики в Германию: 1989 год — 3,2 млрд. долларов, 1990 — 3,1, 1991 — 1,5, 1992 — 0,9. Импорт из Германии: 1989 г. — 7,1 млрд. долларов, 1990 — 8,4, 1991 — 5,6, 1992 —0,8. На нынешний год, по оценкам, эти показатели могут составить соответственно 1,0 и 0,9 млрд. долларов. Еще раз повторю: все расчеты весьма приблизительны. Ни об объемах германских инвестиций в экономику Беларуси, ни о деятельности совместных предприятий точной информации нет. И это весьма печально. Поскольку невозможно представить объективную картину сотрудничества с важнейшим для нашей страны партнером. Именно через Германию лежит наш путь на общеевропейский рынок. Об этом свидетельствует и тот факт, что ФРГ предоставила Беларуси кредиты на 250 миллионов долларов. Это — половина всех западных кредитов...

Что ж, расходов на содержание дипломатического корпуса Беларуси не избежать. За государственную независимость тоже придется платить. Не исключено, даже больше, чем те дивиденды, на которые рассчитывают политики, мечтающие превратить нашу страну во "вторую Швейцарию".

Но о целесообразности этих валютных трат хотелось бы знать не после, а до того, как Госбанк выплатит марки и доллары. Наша газета уже рассказывала о том, что просьбу федерального канцлера ФРГ о приобретении ему нового автомобиля решали здесь чуть ли не всем миром. Право же, и нашему правительству не грех было бы посоветоваться с общественностью, стоит ли, например, покупать для белорусского посольства в Бонне особняк, если учесть, что через несколько лет его придется сбывать и перебираться в Берлин. Согласен: на всенародные референдумы подобные вопросы выносить ни к чему. И хлопотно, и толку мало — все равно к их результатам никто не прислушивается. А вот проинформировать парламент не помешало бы.

— Расскажите, пожалуйста, о том, как проводится экономическая экспертиза предлагаемых Беларуси проектов? Располагаете ли вы достаточной информацией о наших потенциальных партнерах в ФРГ?

Вместо ответа — тяжелый вздох. И он гораздо многозначительнее того, что мог бы сказать торгпред. Да, в условиях свободного рынка платить надо за все. В том числе и за информацию. Денег у нас на это нет. Не вина, а беда Василия Леонова, что ему приходится пользоваться крохами с "барского" российского стола, собирать сведения по частным и весьма ненадежным источникам. К чему это в результате приводит, догадаться не трудно.

Впрочем, от разговора о промахах, допущенных Беларусью в процессе обживания западного рынка, Василий Леонов тактично уклонился, сославшись на слабую осведомленность. В какой-то мере можем помочь торгпреду. Наша газета уже сообщала о том, как опростоволосилось правительство с безвозмездным кредитом ЕС, выделенным Беларуси для закупки остродефицитных лекарств и медицинского оборудования. Право его реализации в полном объеме передали сразу двум зарубежным фирмам, предложившим, кстати, далеко не лучшие цены. В результате — неприятная тяжба. Ладно бы — пострадал только авторитет ведомства. Так ведь из-за допущенного головотяпства лекарства поступят в больницы с задержкой. Не исключено даже — для кого-то слишком поздно. Впрочем, пример этот далеко не единичный. Разве не закупали мы прошедшей осенью зерно по цене 130 долларов за тонну, в то время как канадская пшеница лучших твердых сортов шла на мировом рынке на 20 долларов дешевле? Разве не передали заказ на строительство жилья для военнослужащих германской фирме, которая уличена у себя на родине в финансовой нечистоплотности?

### Служить бы рад...

— Если говорить без обиняков, Беларусь, как, впрочем, и другие республики бывшего Советского Союза, топчется пока лишь на дальних подступах к общеевропейскому рынку. И вряд ли попадет туда в ближайшем будущем. Там тесно и без нас! Хватит уже кормить людей манной небесной! Политики, убеждающие, что распад СССР, а следовательно, и его единого экономического механизма, всем лишь во благо; что теперь, когда мы, наконец, стали по-настоящему независимыми, "Запад нам поможет", по сути такие же жулики, как и Остап Бендер... Вы каждый день общаетесь с предпринимателями ФРГ. Приходилось ли встречать таких, кто из сострадания к нам готов пожертвовать собственным благополучием?

— Образ алчного, злобного капиталиста, подгребающего все под себя, который наша пропаганда культивировала на протяжении многих десятилетий, конечно же, не соответствует действительности. Среди германских бизнесменов немало таких, кто встревожен прогрессирующей агонией нашей экономики, питает самые искренние чувства к оказавшимся в нищете людям и готов оказать посильную помощь. Но, конечно же, не во вред себе. Поэтому рассчитывать на то, что западный мир "сбросится" — накормит нас и напоит, было бы сверхнаивно. Из трясины, в которой мы оказались по собственной вине, самим нужно и выбираться, стараясь использовать сотрудничество с Западом.

— О том, почему западный капитал не хлынул к нам широким потоком, сказано уже немало — не идет приватизация, нет надежных правовых гарантий для иностранных инвестиций и т.д. Но неужели вам как торгпреду не под силу пробить в этих заторах хотя бы маленькие щелочки для отдельных предпринимателей? И, вообще, в чем конкретно состоят ваши обязанности?

— То, что происходит в Беларуси, немцы представляют себе довольно туманно. Моя задача — помочь им понять суть осуществляемых экономических реформ, заинтересовать в сотрудничестве. Не менее важно, чтобы и белорусские предприниматели объективно оценивали не только германский рынок, но и свои возможности. Установление прямых связей, подготовка контрактов, контроль за их реализацией — вот важнейшие, на мой взгляд, обязанности торгпреда. В идеале должно быть так: подними меня ночью — и обязан, как таблицу умножения, ответить на любой вопрос, касающийся сотрудничества наших стран.

— Тогда как понять, Василий Севастьянович, тот факт, что вы оказались абсолютно в стороне от подготовки недавнего визита в Минск правительственной делегации Бранденбурга?

— Мне бы тоже очень хотелось знать это. Наша неорганизованность, необязательность просто шокируют немцев. Любой уважающий себя германский бизнесмен, отправляясь на переговоры, требует не менее чем за месяц абсолютно точной информации — с кем и когда он встретится, какие вопросы будет обсуждать? А узнают об этом нередко только в Минске. Да что тут говорить — официальные приглашения поступают за неделю до визита! Не лучше обстоит дело и с реализацией подписанных соглашений.

— Скажите откровенно: вам нравится нынешняя работа?

— Служить бы рад... Беларусь находится на историческом переломе. Очень хотел бы не быть лишним, помочь осуществить то, что оказалось не под силу Компартии... А прислуживаться тошно. Порой даже не знаю, кем я работаю — торгпредом или обычным водителем у бесчисленных чиновников, приезжающих в Берлин. Всех их надо встретить и проводить, повозить по магазинам... Впрочем, может, не стоит об этом упоминать? Каждый ведь примет на свой счет!

Василий Леонов замолчал, оборвав на полуслове неосторожно оброненную фразу. Как мне показалось, он не прочь был выговориться, сбросить с души тяготящее его бремя. Но что-то помешало исповеди. То ли журналист не соответствовал образу священника, отпускающего грехи оптом и в розницу. То ли сам мой собеседник все еще не считает себя грешником.

